Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка

№22 люты 2013

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь

# З Алесем Бяляцкім забаранілі сустракацца да жніўня



*Сустрэчы Алеся Бяляцкага з жонкай Наталляй Пінчук адкладаюцца на больш позні тэрміны. Запланаваныя на красавік і травень сустрэчы забаронены, паколькі на палітычнага вязня наклалі новыя спагнанні.*

*Паводле Наталлі Пінчук, цяпер першая сустрэча магчымая толькі ў жніўні:*

*- Чарговыя спатканні – кароткатэрміновае і доўгатэрміновае – для яго адмененыя. ¨н іх пазбаўлены. Яны павінны былі адбыцца ў красавіку (кароткатэрміновае) і маі (доўгатэрміновае). Наступныя па чарзе спатканні: у жніўні – кароткатэрміновае, у лістападзе – доўгатэрміновае. Гэта ў тым выпадку, калі яны адбудуцца, а не будуць зноў адмененыя.*

*Сустрэчы, якія былі прызначаны на вясну, былі забаронены яшчэ на пачатку лютага. Пра гэта Наталлі Пінчук паведамілі ў адміністрацыі турмы, да якой яна звярнулся асабіста.*

*Алеся Бяляцкага прысудзілі да 4,5 гадоў турмы нібыта за нявыплату падаткаў.*

## Палітвязні ў Беларусі мусяць быць ня толькі вызваленыя, але і рэабілітаваныя



Такой пазіцыі прытрымліваецца віцэ-старшыня Камітэта па міжнароднай палітыцы і еўрапейскіх справах летувіскага Сейма Эмануэліс Зінгерыс. Сустрэчы ў Сейме Летувы правёў лідар Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі Беларусі Анатоль Лябедзька.

Зінгерыс у размове падкрэсліў, што Еўразвяз не будзе падтрымліваць "душыцеляў свабоды". Як кажа Анатоль Лябедзька, ягоны летувіскі калега асабіста заангажаваны ў пытанне беларускіх палітычных вязняў:

- ¨н уяўляе, што такое беларускія турмы і ў якой сітуацыі сёння знаходзяцца людзі. Па гэтым пытанні мы размаўлялі дастаткова доўга і працягла. Паводле перакананання Эмануэліса Зінгерыса, калі пытанне беларускіх палітычных вязняў не вырашыцца станоўча, то ніякага пацяплення ў дачыненнях паміж Бруселем і Менскам чакаць не варта. Пры тым, што Эмануэліс Зінгерыс – адзін з тых, хто лічыць, што проста вызваленне вязняў недастаткова.

Толькі палітычная рэабілітацыя дае гарантыю таго, што на месца адных палітычных вязняў не прыйдуць другія – такой пазіцыі прытрымліваецца Эмануэліс Зінгерыс.

Пры гэтым Анатоль Лябедзька зазначае, што з сярэдзіны года старшынства ў Еўразвязе пяройдзе да Летувы. Таму Аб'яднаная Грамадзянская Партыя лічыць важным, каб беларускае пытанне было на павестцы дня ў афіцыйнай Вільні.

## Што рабіць і да каго звяртацца, калі тваe правы парушаны?

Парушэнні правоў чалавека – з'ява шэраговая. А вы жадаеце ведаць, якімі правамі валодаеце і як іх абараніць? Да каго можна звярнуцца па дапамогу? Якія дзеянні можна распачаць самастойна? Шукаем адказы 16 лютага на пашыраным семінары «Правы чалавека на пальцах». Дэдлайн 15.02.




У праграме семінара 16 лютага (субота): тэорыя і філасофія правоў чалавека, дзеянні ў абарону грамадскіх інтарэсаў і прававыя механізмы абароны правоў чалавека.

Заяўкі прымаем да 15 лютага (пятніца) ўключна! Не цягніце з падачай – колькасць месцаў абмежавана!

Пра што семінар?

Першая частка семінара – гэта дзве гадзіны пра гісторыю і філасофію Правоў Чалавека. Пасля мы разам падумаем над метадамі абароны правоў чалавека. У гэтым нам дапаможа інструмент пад назвай «Дзеянні ў абарону грамадскіх інтарэсаў».

Апошняя частка семінара прысвечана прававым механізмам абароны правоў чалавека і грамадзяніна. Гэта будзе асабліва карысна юрыстам і тым, хто хоча прафесійна абараняць правы чалавека.

Таксама мы пагутарым аб прынцыповай розніцы паміж праваабаронцамі і палітыкамі, талерантнасці, большасці і меншасці, свабодзе і пра тое, што Правы Чалавека - гэта не пра ўсе на свеце, а пра вельмі канкрэтныя рэчы.

Вядучыя праграмы - маладыя беларускія праваабаронцы. Запланаваны ўдзел замежнага эксперта.

Каго мы чакаем?

Да ўдзелу ў праграме запрашаецца беларуская моладзь і студэнты, а таксама ўсе ахвочыя незалежна ад узросту, сацыяльнага палажэння, веравызнання і г.д.

Дзе і калі адбудзецца?

Семінар пройдзе 16 лютага 2013 (субота) з 11.00 да 17.00. Дакладнае месца правядзення будзе паведамлена пасля рэгістрацыі.

Анлайн-заяўку запаўняйце тут. Дэдлайн падачы заявак 15 лютага 2013 уключна.

Увага! Удзел ва ўсім семінары абавязковы!

Бонус для ўдзельнікаў

Для тых, хто паспяхова пройдзе дадзены семінар, прадугледжана паглыбленае навучанне, а таксама іншыя прапановы ў галіне адукацыі правам чалавека, стажыроўкі і ўдзел у дзейнасці беларускіх і міжнародных праваабарончых і моладзевых арганізацый.

Даведка

«Правы Чалавека «на пальцах»» – сталая навучальная праграма па Правах Чалавека для пачаткоўцаў. Падчас праграмы задаецца і ўзнікае шмат пытанняў, над якімі прапануецца паразважаць самастойна, а таксама з іншымі ўдзельнікамі і вядучымі. Праграма з'яўляецца часткай Міжнароднай школы Правоў Чалавека і грамадзянскіх дзеянняў

Па ўсіх пытаннях пішыце на belmpd@gmail.com.

Далучайцеся да нас Вконтакте, Facebook, Twitter.

Праваабарончы цэнтр "Вясна"

# Вежы і веды

***Нашая мяжа, як і належыць для мяжы, дзе штучна і ўпарта спрабуюць раздзяліць натуральную хаду агульнаеўрапейскай цывілізацыі на дзьве надуманыя паловы, зноў аказалася пад пільным наглядам і на моцным замку. Замок умоўны, як і сімвалы на ім, з неіснуючым іржавым вялікім ключом і казачнымі вялікімі варотамі. Таксама неіснуючымі. Ну і з астатняй віртуальнай атрыбутыкай і абсталяваннем услаўленымі ў песні пра кантрабандыста Касяй Камоцкай – таемныя пасткі, сховы, жалезныя маскі на тварах аховы і высокія вежы.***

У рэальнасці ж гэта проста чарговы службовец у прыгожым мундыры на адным з Берасцейскіх мытных пераходаў, які заўважыў у сумцы ў свайго суайчынніка... кніжку. Так, кніжку. І таму ён яго рэальна затрымаў, каб нібыта дакапацца да таго, што такога ў той кніжцы напісана. Вось такая ў гэтага службоўца непераадольная цяга да друкаванага слова.




І хоць чалавек у мундыры сам мае вышэйшую адукацыю, што тэарэтычна сведчыць пра тое, што службовец асоба пісменная і чытаць у прынцыпе ўмее, ён усё ж выклікае на дапамогу яшчэ некалькі супрацоўнікаў з іншых службаў. І ўсё для таго, каб нібыта разабрацца ў змесце кніжкі, якую маладыя людзі везлі з сходу “вікіпедзістаў”.

Падобная справа не новая, і зусім не арыгінальная. Людзей з кніжкамі на беларускай мяжы затрымліваюць часцей чым нелегалаў ці кантрабандыстаў, калі суаднесці колькасць гэтых кніжных затрыманняў да колькасці чалавек, што возяць кніжкі і той колькасці, што цягае кантрабанду. І самога неяк затрымлівалі з кніжкамі. Нават сабаку з вартаўніком прыстаўлялі, а пад колы машыны клалі адмысловыя пасы з здаравеннымі іголкамі. А кніжкі, як і мае быць, забіралі на экспертызу. Страшна не было. Але не было і смешна. Бо калі глядзіш на дарослага чалавека, які сваім абавязкам лічыць не прапусціць праз мяжу кнігу, становіцца проста балюча. (Зрэшты, у яго службовых абавязках вайна супраць кніжак нідзе не прапісаная. Назавём гэтыя дзеянні яко прыватнай ініцыятывай на дзяржаўнай службе).

Цікава, якую мэту пераследуе гэты чалавек. З яго словаў ён баіцца, што ў гэтай кнізе можа быць нешта абразлівае для існай дзяржаўнай сістэмы. Але ж гэта не так. Яму пляваць на гэта. Бо ў дваццаць першым стагоддзі, каб пераслаць нейкую інфармацыю, дастаткова націснуць гузік на клавіятуры. І не трэба цягнуць у торбе лішні груз. І той, што затрымлівае кнігі, добра гэта ведае. А чалавек вязе з сабой кніжку толькі таму, што любіць кніжкі. Дык навошта ж яго затрымліваць?

Адказ тут просты і ляжыць на паверхні. Кніжкі затрымліваюць, каб паказаць сваю чуйласць і такім чынам, без удасканалення свайго прафесіяналізму і без асаблівай напругі на працоўным месцы забяспечыць асабіста сабе кар’ерны рост.

Самыя ж дзеянні кніжнага арышту нясуць адваротны вынік. Пра затрыманую літаратуру пачынаюць пісаць, людзі ёй пачынаюць цікавіцца і старацца набыць. Ведаю па сабе, калі мой тэлефон разрываўся ад пытанняў, дзе можна набыць тую кнігу, якую “арыштавалі”.

Ведаю гэта яшчэ па дзембельскіх альбомах. Паколькі я служыў за мяжой у засакрэчаных войсках, нам было забаронена рабіць вайсковыя альбомы. Рабілі ж іх усе мае саслужыўцы, і усе перавозілі праз непераадольную мяжу Савецкага Саюзу, мінаючы надзвычай пільны нагляд. Там жа, дзе альбомы рабіць дазвалялася, большая палова жаўнераў не абцяжарвала сябе такім заняткам.

Вось і зараз, прачытаўшы ў інтэрнэце пра чарговае кніжнае затрыманне з роспаччу азначыў, што бракуе інфармацыі пра тое, якія канкрэтна кнігі апынуліся “за кратамі”. Думаю, што вельмі вялікая колькасць людзей захацела цяпер іх набыць і прачытаць. І большасць з іх так і зробіць. Не прачытае той кнігі цяпер хіба толькі той службовец, што яе затрымаў. Бо яму глыбока да лямпачкі што гэта за кнігі, і пра што там пішуць.

Ну а кнігі нясуць веды. І кожны раз, усялякая кніга, не важна з якім зместам, перасякаючы мяжу, будзе працягваць нішчыць таемныя пасткі, рабіць непатрэбнымі сховы, здымаць з аховы жалезныя маскі і дарыць іх тварам шчырыя ўсмешкі. Ды разбураць вежы, якія даўно ўжо нікому не патрэбныя.

***Віктар Сазонаў***

# Хроніка правапарушэнняў

## *Гарадзеншчына, студзень - люты*

### Адміністрацыйныя справы супраць актывістаў грамадзянскай супольнасьці

***За студзень-люты 2013-га году адміністрацыйныя справы супраць актывістаў грамадзянскай супольнасці былі пераважна за грамадскія акцыі, якія прайшлі яшчэ ў канцы 2012 году – актывістам інкрымінавалі ўдзел у “несанкцыянаваных акцыях”. Былі зафіксаваныя і іншыя формы дыскрымінацыі і пераследу, у прыватнасці адмовы ў правядзенні публічных мерапрыемстваў, якія набылі ўжо сістэмны і ўсеагульны характар. Таксама гарадзенскі КДБ працягваў выклікаць на допыты актывістаў аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», якія праводзяць акцыі ў падтрымку малога памежнага руху. Ішлі ціск на актывістаў і запалохванні напярэдадні 25 сакавіка – Дня Волі.***

**3 студзеня.** Да 10 базавых велічынь прысудзілі старшыню Гарадзенскай гарадской арганізацыі партыі БНФ Вадзім Саранчукоў за ўдзел у акцыі па ўшанаванні паўстанцаў Кастуся Каліноўскага 1863 года. Пастанову ад 27 снежня 2012 году Саранчукоў атрымаў праз пошту.

**10 студзеня.** Прадказальнай адмовай у Гарадзенскім абласным судзе скончыўся разгляд скаргі бярозаўскага грамадскага актывіста Сяргея Трафімчыка на пастанову Свіслацкага раённага суда. За ўдзел у Дні памяці паўстанцаў 1863 году ў Свіслачы суддзёй Жанай Салагубік 13 снежня ён быў аштрафаваны на 8 базавых велічынь. Суддзя Эдуард Друц не задаволіў скаргу.




**29 студзеня** ў Гарадзенскім абласным судзе была разгледжана скарга грамадскага актывіста і праваабаронца Мікалая Уласевіча на прысуд Астравецкага раённага суду. 18 снежня той у выніку ажно 9 судовых паседжанняў прызнаў актывіста вінаватым у здзяйсненні адміністрацыйнага правапарушэння і аштрафаваў яго на 40 базавых велічынь. Уласевіча затрымалі ў апошнюю выбарчую кампанію за два дні да асноўнага дня галасавання, 21 верасня, і звінавацілі ў распаўсюдзе нібыта незаконнай агітацыйнай прадукцыі. Праз нейкі час абвінавачванне змянілі на “непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі”. Суддзя абласнога суда Уладзімір Яўхута пакінуў рашэнне раённага суда правамоцным.

**20 лютага** ў Лідзе адбылося судовае паседжанне над Аляксандрам Калышкам, старшынём грамадскага аб’яднання “Польскай культуры зямлі Лідскай”. Уся яго “віна” палягала на тым, што ён разам з сябрамі арганізацыі ўсклалі кветкі і запалілі знічкі на месцы пахавання ксяндза Адама Фалькоўскага. Была заведзена адміністрацыйная справа. Суддзя Сяргей Піпко адправіў пратакол на дапрацоўку.

# Хроніка правапарушэнняў

## Гарадзеншчына, студзень - люты

## Іншыя формы пераследу, дыскрымінацыі і парушэння заканадаўства з боку ўладаў

***Перад Новым годам на адрас рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства РУП «Белпошта» быў накіраваны калектыўны зварот з просьбай стварыць для «Газеты Слонімскай» роўныя ўмовы, уключыўшы незалежнае выданне ў сістэму распаўсюду праз РУП «Белпошта» і ў рэалізацыю праз кіёскі РУП «Саюздруку». Пад зваротам падпісаліся больш за 300 жыхароў Слонімшчыны. У студзені ад РУП «Белпошта» быў атрыманы адказ за подпісам намесніка генеральнага дырэктара па эксплуатацыі Алены Анатолеўны Скрыпчык, у якім зварот праігнараваны.***

Люты. Грамадска-палітычны актывіст з гораду Бярозаўка Вітольд Ашурак атрымаў дзіўную позву з Лідскага раённага суду – ён мусіць заплаціць 150 тысяч беларускіх рублёў за судовыя выдаткі, якія нібыта страціў Свіслацкі раённы суд. Яшчэ 27 кастрычніка мінулага году Ашурак быў затрыманы за тое, што ў час Дня памяці паўстанцаў 1863 году трымаў бел-чырвона-белы сцяг. ¨н быў засуджаны Свіслацкім судом да трох сутак адміністрацыйнага арышту. Перад гэтым яму прыйшоў афіцыйны ліст у якім паведамлялася, што ён мусіць заплаціць 78 тысяч беларускіх рублёў за ўтрыманне пад арыштам у снежні 2010 году. Тады Ашурак быў затрыманы на плошчы і быў засуджаны да адміністрацыйнага арышту, праз два гады ад яго запатрабавалі заплаціць незразумелую пеню за ўтрыманне на "сутках" паводле пераразліку.



Увечары 7 лютага гарадзенскі публіцыст і праваабаронец Уладзімір Хільмановіч, які вяртаўся маршрутным аўтобусам Беласток-Гародня, быў беспадстаўна затрыманы памежнікамі і прадстаўнікамі мытні пераходу "Брузгі". Адбыўся мытны дагляд яго рэчаў, а аўтобус паехаў. Пасля дагляду рэчаў Хільмановіч яшчэ гадзіну чакаў акту мытнага дагляду. Пасля гэтага яму аддалі пашпарт, пасадзілі на іншы аўтобус і ўрэшце праз больш чым дзве з паловай гадзіны прапусцілі праз мяжу.

Люты. Свіслацкі грамадскі актывіст Юрый Глебік атрымаў адказ на сваю чарговую скаргу па факце адміністрацыйнага штрафу за ўдзел у адзначэнні Дня памяці паўстанцаў 1863 году, што адбылося 27 кастрычніка мінулага году. 27 лістапада суддзя Свіслацкага раённага суду Жана Салагубік засудзіла Глебіка да 1 мільёну беларускіх рублёў штрафу. Старшыня Гарадзенскага абласнога суду Аляксандр Грынкевіч сцвярджае, што "судебное разбирательство проведено полно, объективно и всесторонне".

У Слоніме ў лютым былі пададзены тры заяўкі на Дзень Волі – адна на прадстаўленне памяшкання для правядзення беларускай дыктоўкі, якая была запланавана слонімцамі на 22 сакавіка, другая – на мерапрыемства, прысвечанае чарговым угодкам абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, запланаванае на 23 сакавіка, трэцяя – на 24 сакавіка, святкаванне Дня волі. На ўсе тры заяўкі былі прысланыя адмовы мясцовай улады. Адказ быў атрыманы за подпісам намесніка старшыні Слонімскага райвыканкама Мікалая Шыха.

# Комплекс правінцыялкі

***Жывем мы ў Беларусі ў перавернутым, перакручаным грамадстве. Грамадстве, у якім страчаны амаль усе арыенціры, грамадстве, дзе многае перакулена з ног на галаву. У нашым дзіўным каралеўстве крывых люстэркаў усё робіцца для ўзмацнення гэтай татальнай фантасмагорыі, да давядзення гэтага абсурду да абсалюту. У шматтысячнай гісторыі чалавецтва было шмат паняволеных народаў і завяяваных краінаў, многія з іх даўно зніклі з аблічча зямлі, альбо перарадзіліся ў іншыя. Але, думаецца, плямёнаў манкуртаў, якое паказаў у сваім літаратурным творы кыргызскі пісьменнік Чынгіз Айтматаў, у рэальнасці было ня так шмат.***

Адным з такіх ёсць сучасныя беларусы – народ, які жыве нібыта ў сваёй паводле назвы дзяржавы, а між тым – нібыта як на чужой зямлі, народ з сваёй багатай гісторыяй, але які жыве чужым розумам і чужынскімі парадкамі. Зразумела, што больш чым за дзвесце гадоў панавання тут усходняга суседа не маглі прайсці бясследна. Акрамя таго, што мяняліся этнічныя межы, паліліся беларускія кнігі, руйнавалася наша архітэктура, вынішчаліся фізічна і людзі – ваяры, інтэлігенцыя, цвет нацыі. Тым, каго пакідалі жывым, прапаганда прышчапляла трывалы комплекс правінцыйнасці. Беларусь мусіла быць то “северо-западным краем”, то “партызанскай рэспублікай”, то ўрэшце нібыта самастойнай дзяржавай, але ў якой “нічога няма” – прыродных рэсурсаў, людскіх талентаў, сваёй паўнавартаснай мовы і культуры. Вось і ня можа стаць дзікая абрэвіятура РБ – Рэспублікай Беларусь.

На дзяржаўным тэлебачанні хлопцы і дзеўкі, спрэс з беларускімі прозвішчамі, якія лічаць сябе мясцовымі “зоркамі” (але з нязменнай жыццёвай марай патрапіць у вялікія Пецярбург ці Маскву, дзе сапраўдная для іх сталіца) нібыта спаборнічаюць паміж сабой у тым, хто больш прынізіць і абразіць дзяржаўную беларускую мову. Асабліва гэта выяўляецца ў забаўляльных перадачах. Асабіста я стараюся іх не глядзець, але часам трапляю на такія сюжэты, ці іншыя расказваюць. Не разумеюць гэтыя напышлівыя фанабэрыстыя маладзёны, што абражаюць найперш сябе, правінцыяльны комплекс не дазваляе зразумець, ім здаецца, што спасцiглі “вышэйшую культуру”. А ўсе іх “творчыя знаходкі” глядзяцца да пачварнасці агідна. Дзяржава свядома дыскрымінуе беларускую мову. Тых жа спартовых каментатараў, якія памкнуліся перайсці на родную мову, хутка зацугялі і вярнулі ў расейскамоўнае “стойла”.



Ды што там дзяржаўныя медыі. Вось адчыняю адзін рэгіянальны незалежны сайт з безаблічнай пустой назвай і чытаю ў адным з блогаў здольнай некалі журналісткі такі ўступ: “Я живу в небольшом провинциальном городке…”. А горад гэты мае багацейшую гісторыю і культуру і нават сёння ўражвае сваёй велічнай архітэктурай. Дык адкуль у нашых людзей такі комплекс непаўнацэннасці, такое імкненне да самапрыніжэння?! У партнёрах гэтага незалежнага інтэрнэтнага рэсурсу – спрэс ведамыя і аўтарытэтныя беларускія арганізацыі і ініцыятывы, іх банеры пададзены знізу, але аформлены сайт выключна па-расейску, матэрыялы таксама амаль усе на чужой мове. Адмыслова не называю ні рэсурс, ні горад, ні прозвішчаў – бо з’ява ўжо досыць тыповая для беларускай незалежнай інтэрнэт-прасторы. Ці дастаткова з’ездзіць у сталіцу Мінск і прайсціся па дэмакратычных офісах вядомых арганізацый – уражанне атрымаеце досыць сумнае – у бальшыні з іх працоўная і побытавая мова – расейская. Нібыта ў Самару ці Вологду трапіў… І вось тут становіцца сумна па-сапраўднаму. Бо чым тады прынцыпы і светагляд нашых незалежных арганізацый розняцца ад паставаў і палітыкі дзяржаўных структураў, якія мы крытыкуем?! Паглядзіце блогі ў інтэрнэце ведамых айчынных журналістаў – бальшыня з іх будзе выключна па-расейску, бо дзе ж ты на беларускай мове выкажаш штосьці вялікае, як выславіўся адзін вядомы правадыр!? Пры тым і усялякія іншыя прыдумкі дэкляруюцца – кшталту “пашырыць інфармацыйную прастору”, “давесці глыбокія думкі да як мага большай часткі грамадства” і таму падобнае. А Беларусь з-за такога нацыянальнага нігілізму так і застаецца правінцыялкай, якая саромеецца свайго.

*Уладзімір Хільмановіч*

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на травень 2013 году

*1 сакавіка*

*80 гадоў таму (1933) – У г. Уржум (Ніжагародзкі край, Расея) у ссылцы памёр Уладзімір Жылка, беларускі паэт, перакладнік, публіцыст, крытык. Скончыў вучэльню ў Міры.*

*3 сакавіка*

*100 гадоў таму (1913) – Памёр Зыгмунт Пуслоўскі, мецэнат, калекцыянер. Нараджэнец Альбярціну.*

*95 гадоў таму (1918) – У Берасьці паміж Савецкай Расеяй і Нямеччынай была падпісаная мірная дамова, паводле якой Беларусь страціла значную частку сваёй тэрыторыі.*

*6 сакавіка*

*130 гадоў таму (1883) – У в. Вароніча (Слонімскі р-н) нарадзіўся Іван Бялькевіч, беларускі мовазнавец, педагог, аўтар слоўнікаў.*




*8 сакавіка*

*455 гадоў таму (1558) – У Лукішках (зараз у межах Вільні) нарадзіўся Альбрыхт Радзівіл, дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Валодаў маёнткамі Лаздуны, Геранёны (Іўеўскі р-н).*

*85 гадоў таму (1928) – У Празе памёр Пётра Крэчаўскі, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, паэт, гісторык, старшыня Рады БНР. Пахаваны на Альшанскіх могілках. Нараджэнец в. Дубна (Мастоўскі р-н).*

*14 сакавіка*

*70 гадоў таму (1943) – У Празе памёр Васіль Захарка, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, старшыня Рады БНР з 1928 па 1943. Нараджэнец в. Дабрасельцы (Зельвенскі р-н). Пахаваны на Альшанскіх могілках.*

*15 сакавіка*

*60 гадоў таму (1953) – У Клецку нарадзіўся Валеры Задаля, беларускі журналіст, грамадзкі дзеяч. Жыў і працаваў у Навагрудку, Ваўкавыску, Гародні.*

*16 сакавіка*

*160 гадоў таму (1853) – У Паставах памёр Канстанцін Тызэнгаўз, асьветнік, прыродазнавец. Нараджэнец мяст. Жалудок (Шчучынскі р-н).*

*18 сакавіка*

*255 гадоў таму (1758) – Памёр Тамаш Жаброўскі, беларускі асьветнік, архітэктар, астраном, матэматык. Нараджэнец маёнтку Дзятлава (Дзятлаўскі р-н).*

*19 сакавіка*

*245 гадоў таму (1768) – У Шчорсах (Навагрудзкі р-н) нарадзіўся Адам Храптовіч, асьветнік, мецэнат мастацтваў і навукі, удзельнік паўстаньня 1794 году. Заснаваў у Шчорсах буйную пачатковую школу.*

*23 сакавіка*

*95 гадоў таму (1918) – Рада БНР абвясьціла Гарадзеншчыну беларускай тэрыторыяй.*

*80 гадоў таму (1933) – Памёр Уладзімер Пянткевіч, кіраўнік Ўсходняй місіі, суперыёр законнага дому Айцоў Езуітаў ў Альбярціне.*

*25 сакавіка*

*95 гадоў таму (1918) – Абвяшчэньне Трэцяй Устаўной Граматы БНР. ДЗЕНЬ ВОЛІ.*

*28 сакавіка*

*85 гадоў таму (1928) – У в. Дэгісі (Смургонскі р-н) нарадзіўся Эдуард Сташкевіч, удзельнік беларускага антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху ў Смургонях у 1949-50.*

*30 сакавіка*

*125 гадоў таму (1888) – У в. Якімаўка на Гомельшчыне нарадзіўся Ян Цеханоўскі, беларускі педагог, дырэктар Навагрудзкай гімназіі на пач. 1920-ых, пазьней працаваў у Ашмяне.*

***Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі “Радыё Рацыя” - праграма “Людзьмі звацца!”, якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце***

**www.racyja.com**

***Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце***

**www. spring96.org**




***На сайце***

**www.palitviazni.info**

***вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі***

***Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце***

**www.harodniaspring.org**



***Праваабарончая інфармацыя з іншых рэгіёнаў Беларусі:***

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
люты 2013
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры передруку спасылка
абавязковая

